ЗАХОДНЕ-БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 35 (91) 28 кастрычніка – 3 лістапада 1994 Кошт 50 рублёў

*Многія лекары ад страху трапіць пад скарачэньне баяцца сказаць слова ў падтрымку калегаў.* - ст. 3.

*Як і ўсе хлапчукі, ён жадаў гуляць у вайну, таму з дапамогай ног змайстраваў сабе пістолет.* - ст. 4.

*Гансалес адбіваўся нажом і патрапіў у працінніка. Ад удару ў гуманоіда нож зламаўся.* - ст. 6.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

# ЧАМУ ТАКОЕ ГАРОТНАЕ НАША ЖЫЦЬЦЁ?

**Нягледзячы на рашучыя заявы А.Лукашэнкі, што цэны на прадукты харчаваньня не будуць расьці, а жыццёвы ўзровень насельніцтва перастане катастрафічна падаць, цэны па-ранейшаму растуць і яшчэ больш імкліва, а пра жыццёвы ўзровень няма чаго казаць. Што б ні гаварыў ён зараз, але шлях у крэсла Прэзідэнта Беларусі яму праклалі "страстные речи" аб барацьбе з карупцыяй, мафіяй, хабарніцтвам: пачынаючы з кілаграма іржавых цьвікоў Шушкевіча да "чамаданаў" кампрамату накшталт Руцкога. Ён абяцаў зьнішчыць парушальнікаў закона "калёным железом", а зараз на іх няма нават "холодного прутка". Цяпер прэзідэнт на заявы дэпутатаў аб парушэньнях тых ці іншых чыноўнікаў заяўляе, што "не надо мне политических спекуляций на почве мафии". Няўжо ён забыў, што менавіта на такім папулізме прыйшоў да ўлады.**

З яго размовы з расейскім журналістам А.Караулавым жыхары Беларусі даведаліся пра цікавую дэталь: ніякай праграмы па вываду рэспублікі з крызісу ў яго не было, і толькі да сярэдзіны верасьня яе павінны былі распрацаваць. Бачна, што ён кіраваўся напалеонаўскім прынцыпам: "улезьці ў бітву, а там будзе бачна", галоўнае - стаць прэзідэнтам, а ўжо з дапамогай улады штосьці зрабіць. Такая палітыка вельмі рэдка дае станоўчыя вынікі, бо ў ёй шмат авантурызму.

Наша трагедыя яшчэ ў тым, што цяперашні ўрад дагэтуль не меў уласнай праграмы вываду эканомікі з крызісу і разьвіцьця незалежнай дзяржавы. Атрымліваецца, што ўсё, што было раней, - гульні, мэта якіх - атрымаць ўладу, чакаючы цуду і дапамогі з боку. Але ніхто задарма дапамагаць не стане, бо зараз кожны шукае выгады, а бліжні - у першую чаргу.

Усяму гэтаму ёсьць тлумачэньне. У нас быў таталітарны рэжым. Дэмакратыя пачала зараджацца пасьля 90-х гадоў і была слабая, непасьлядоўная. Дэмакраты пачалі сваю дзейнасьць з недазвальняльных памылак.

У 1991 годзе пасьля путчу, калі ўлада была безгаспадарная і ляжала ля ног, а бальшавікі былі ў разгубленасьці, зразумеўшы, што з-за іх ніхто не пойдзе на барыкады, дэмакраты не здолелі цалкам выкарыстаць сітуацыю.

Не сталі прароцкімі словы Леніна: "Народ, вкусивший побед социалистической революции, никому не отдаст своих завоеваний." А справа ў тым, што іх і не было, а толькі догмы, мэта якіх адна - утрымаць бальшавікоў ва ўладзе. Але ж, будучы лепш арганізаванымі, чым дэмакраты, бальшавікі паступова апрытомнелі і пачалі рыхтавацца да захопу яе.

Асноўная памылка Ельцына ў тым, што адразу ў 1991 годзе не былі назначаны выбары ў Вярхоўны Савет. Тады б і бальшавікі, і партнаменклатура былі б канчаткова пераможаны. Але, як і ўсё ў дыялектыцы, гэтая памылка мае станоўчае значэньне. У новых абставінах людзі змаглі ўбачыць ілжывы антынародны твар бальшавізму. Была прадэманстравана прага ўладарыць і тое, што ўлада для іх - самамэта. Ніхто ж не паўтарыў подзьвіг Лазо, мала хто палічыў партбілет вышэй за ўсё. Праўда, наш прэзідэнт яшчэ доўга ганарыўся тым, што на лацкане пінжака носіць значок дэпутата Вярхоўнага Савета БССР. Большасьць з партнаменклатуры, каб не згубіць уладу, уладкавалася ў гаспадарча-адміністрацыйныя структуры.

**(Заканчэньне на 2-й ст.)**



**Фатаграфаваў С.Грыц.**



## ЦЯГА ДА МІНУЎШЧЫНЫ?

За вяртаньне да калгасна-саўгаснага ладу прагаласавала большасьць працоўнага калектыву акцыянернага таварыства "Горскае" Магілёўскай вобласьці. У акцыянерным таварыстве ўжо некалькі год запар вядзецца эканамічны эксперымент, дзякуючы якому ўдвая павялічылася вытворчасьць малака і мяса, на 40% ўзрасла заработная плата.

Што пацягнула акцыянераў да мінуўшчыны?

Падставай да вяртаньня ў калгасную форму гаспадараньня на зямлі паслужылі празьмерныя падаткі ад фонду зарплаты, якіх раней з калгасьнікаў не бралі. Акрамя таго, большасьць баіцца адказнасьці, якая патрабуецца ад кожнага на любым участку працы.

## ВІЦЕБСКІЯ КАЗАКІ

У Віцебску створана яшчэ адна арганізацыя па "узьяднаньню" брацкіх славянскіх народаў "Казацкае брацтва". Брацтва мае на мэце дзейнічаць на ніве прапаганды еднасьці Ўсходніх і Заходніх славян.

На чале гэтай паўваеннай і паўграмадзянскай арганізацыі стаіць вайсковы атаман, маёр у адстаўцы, дэпутат Віцебскага гарадзкога Савета В.Афанасьеў.

У сувязі з гэтым Віцебская рада БНФ зрабіла заяву, што такая "казацкая арганізацыя" уяўляе сабой пагрозу дзяржаўным інтарэсам Беларусі.

Ул.інф.

## НАВІНЫ БНФ

Адбылося пашыранае пасяджэньне Гарадзенскай рады БНФ "Адраджэньне". Сябры рады абмеркавалі магчымасьці супрацоўніцтва з гарадзкім таварыствам абароны спажыўцоў.

Дарэчы, у працы рады ўзяла ўдзел старшыня Гарадзкога таварыства абароны спажыўцоў спадарыня Жукава, якая выступіла з дакладам аб форме супрацоўніцтва.

Дапамагаць таварыству ў яго працы выказалі жаданьне дзесяць сяброў з шэрагаў БНФ.

* * *

Таксама сябры Рады прынялі рашэньне наконт мерапрыемстваў, якія падчас сьвяткаваньня другога лістапада Беларускага народнага сьвята - Дня ўспамінаў продкаў "Дзяды" - будуць праводзіцца мясцовай суполкай БНФ.

Сьвяткаваньне распачнецца другога лістапада агульным зборам сяброў БНФ а 10-ай гадзіне ў Горадні па вул.Дамініканскай, 1, у рэдакцыі газеты "Пагоня".

Г.Д.

## 30 МІЛЬЯРДАЎ «ЗАЙЦОЎ» ЗА ЭНЕРГІЮ

Як паведамілі ў ВА "Гроднаэнерга", агульная запазычанасьць спажыўцоў электрычнай і цеплавой энергіі на 21 кастрычніка склала 30 мільярдаў рублёў. У сьпісе даўжнікоў лідзіруе вытворчае аб'яднаньне "Азот", якое павінна за энергію 18 мільярдаў "зайцоў". Толькі за электрычную энергію - 273 і 212 мільёнаў рублёў адпаведна - вытворчаму аб'яднаньню "Гродназнерга" вінаватыя шклозавод "Нёман" і Смаргонскі завод аптычнага станкабудаваньня. Увогуле ў сьпісе даўжнікоў налічваецца звыш дзесяці прадпрыемстваў Гарадзенскай вобласьці.

## ЦЭНЫ ЗНОЎ «ПАЕХАЛІ»

З 1 лістапада ў 2,5 раза па Гарадзенскай вобласьці павялічыцца кошт адной паездкі на гарадзкім транспарце і складзе 100 рублёў. Ужо зьявіліся ў продажы месячныя праязныя: агульны каштуе 6000 рублёў, на адзін від транспарту - 4 тысячы, студэнцкі на два віды - 3 тысячы, а вучнёўскі - 1500 рублёў.

Як паведамілі ў аддзеле цэн Гарадзенскага аблвыканкама, павелічэньне цэн па-ранейшаму толькі часткова дазволіць пакрыць выдаткі транспартнікаў, бо сабекошт адной паездкі на тралейбусе зараз складае 300 рублёў, а на аўтобусе - яшчэ больш.

А.ДУК.

## ГОМЕЛЬ - ІНТЭЛЕКТУАЛЬНАЯ СТАЛІЦА РЭСПУБЛІКІ?

З Масквы пасьля запісу перадачы "Брэйн-рынг" вярнуліся каманды інтэлектуальнай гульні "Белая Русь". У час запісу вядучы А.Казлоў зьдзівіў прысутных сваімі своеасаблівымі ведамі геаграфіі і гісторыі. Выклікаючы на рынг гомельскую дзіцячую каманду "Кацюша", ён аб'явіў: "Каманда з Гомеля, сталіцы Беларусі". Праўда, пасьля рэакцыі залы папраўся - "інтэлектуальнай сталіцы".

Магчыма, у гэтым была частка праўды, бо з пяці запрошаных з Беларусі каманд тры прадстаўлялі Гомель. Толькі ў гэтым горадзе каманды інтэлектуалаў сабраны ў клуб, які, ў сваю чаргу, зарэгістраваны ў міжнароднай асацыяцыі клубаў "Што? Дзе? Калі?"

Па выніках гульняў дзіцячая каманда "Кацюша" стала віцэ-чэмпіёнам МАК па Брэйн-рынгу, дарослая зборная саступіла камандзе з Адэсы. У цэлым жа эксперты клуба адзначаюць стабільнасьць гомельскіх знатакоў і няпэўныя перспектывы на будучыню.

СІМ

## *«БРЕСТСКИЙ КУРЬЕР» ПАВЕДАМЛЯЕ*

❒ У Берасьці прадпрымаецца спроба стварыць яшчэ адну прапрэзідэнцкую арганізацыю пад назвай "Абласны грамадзкі савет па сувязях з Галоўным упраўленьнем Службы кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта РБ па Брэцкай вобласьці". У ініцыятыўную групу ўваходзяць людзі розных прафесій (прадпрымальнікі, журналісты, прадстаўнікі Саюзу моладзі), якія пакуль не маюць нічога агульнага з раней створаным у Берасьці Камітэтам садзейнічаньня Прэзідэнту.

❒ Пасол Расеі ў Беларусі І.Сапрыкін правёў у Берасьці перамовы з мясцовым кіраўніцтвам наконт адкрыцьця тут генеральнага консульства Расейскай Федэрацыі.

❒ У Народным руху Беларусі закулісная барацьба перайшла ў стадыю адкрытага расколу. Усьлед за камуністамі і Саюзам афіцэраў прыняў рашэньне аб спыненьні сваёй дзейнасьці ў складзе гэтай арганізацыі Берасьцейскі камітэт НРБ.

❒ У страхавым таварыстве "Кентаўр" настаалі не лепшыя часы. Па падазрэньню ў прысваеньні буйных наяўных страхавых сум у рублях і валюце арыштаваны кіраўнікі Берасьцейскай філіі гэтага таварыства. Вядзецца сьледства.



## ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# ЦЕНЯВЫ КАБІНЕТ ПРАЦУЕ

Працягваецца рэгулярная праца Ценявога Кабінету Міністраў Апазіцыі БНФ.

20 верасьня пасяджэньне пачалося традыцыйна з інфармацыі аб апошніх падзеях у краіне. Па словах ценявога міністра эканомікі У.Заблоцкага, за апошнія паўтара месяца кошт прадуктаў харчаваньня ў 12 разоў абагнаў рост заробку, павышэньне інфляцыі за тыдзень склала 30 працэнтаў. Кабінетам міністра заслухана інфармацыя ценявога міністра замежных спраў В.Голубева аб падрыхтоўцы беларуска-летувіскага пагадненьня і дагавору з Расеяй.

Галоўным у парадку дня стаў даклад доктара эканамічных навук праф. У.Тарасава аб эканамічным становішчы ў краіне і шляхах выхаду яе з крызісу. Вызначаны доўгатэрміновыя стратэгічныя накірункі эканамічнай палітыкі і тактычныя меры па іх выкананьню. Прааналізаваны вынікі "шокавай тэрапіі" - лібералізацыі цэнаў на асноўныя харчовыя прадукты. Зразумела, што такая палітыка была своечасовай тры-два гады таму назад ва ўмовах адноснага напаўненьня таварнага рынку. Акрамя таго, яна можа даць станоўчы вынік толькі ў спалучэньні з іншымі мерамі, напрыклад, малой прыватызацыяй. Дакладчыкам падкрэсьлены таксама негатыўныя наступствы дэнамінацыі грашовых сродкаў, менавіта страта патэнцыяльных інвестараў сярод насельніцтва, грашовыя накапленьні якога зьяўляюцца немалазначным крэдытным рэсурсам. Сцьверджана неабходнасьць стварэньня нацыянальнай грашовай адзінкі (валюты), інакш усе спробы рэфармаваньня эканомікі будуць марнымі. Зразумела, што гэтаму мерапрыемству абавязкова павінна папярэднічаць прыняцьце шэрагу законаў, а таксама фармiраваньне адпаведных структураў.

У.Тарасаў крытыкаваў імкненьні рынкавага рэфармаваньня беларускай эканомікі шляхам сьляпога пераймання гэтых працэсаў у суседніх дзяржаў без уліку нацыянальных магчымасьцяў, эканамічную неадукаванасьць кіраўніцтва, яго жаданьне прадставіць асноўнай прычынай разбурэньня эканомікі разрыў старых сувязяў, што сцьвярджаў і мінулы ўрад.

У працэсе абмеркаваньня дакладу былі выказаны думкі аб адмоўным узьдзеяньні лібералізацыі цэн на становішча аграрнага сектару, на кошт прадуктаў харчаваньня і інфляцыйныя працэсы: аб неабходнасьці абмежаваньня "дзяржаўнага рэкету" у выглядзе падаткаў, пошлін, гандлёвых нацэнак; аб прыватызацыі дзяржпродажу нафтапрадуктаў (І.Нікітчанка); аб неабходнасьці ўрэгуляваньня экспартна-імпартнага балансу і ліквідаваньня клірынгу, што вельмі важна для стварэньня сістэмы эканамічнай бясьпекі (С.Гусак). На падставе аналізу эканамічнай палітыкі Польшчы абгрунтавана стымуляваньне малога бізнесу і ліцэнзаваньне яго інвестыцый Нацбанкам (В.Маскевіч). Па ацэнцы міжнародных экспертаў, з Беларусі "чаўнакамі" вывозіцца валюта ў колькасьці да 1 млрд. за год. Падкрэсьлена вялікае значэньне ў стварэньні рынку інфраструктуры - гандлёвай, банкаўскай і г.д. (Ю.Хадыка).

Падводзячы вынікі дакладу і дыскусіі, кіраўнік Ценявога Кабінету З.Пазьняк адзначыў выказаньня новыя канкрэтныя ідэі і прапановы для выпрацоўкі Кабінетам Праграмы выратаваньня нацыі.

Разгляду тэзісаў да яе было прысьвечана наступнае пасяджэньне апазіцыйнага ўраду, якое адбылося 4 кастрычніка. Першапачаткова былі разгледжаны праграмныя прапановы па рэфармаваньню сельскагаспадарчай вытворчасьці да 2000 года, падрыхтаваныя групай распрацоўшчыкаў на чале з членам-карэспандэнтам АНБ І.Нікітчанкам. Прадугледжана сукупнасьць зямельнай рэформы, мерапрыемстваў па стымуляваньню прадуктыўнасьці сельскай гаспадаркі, удасканаленьню яе кіраўніцтва і фінансаваньня. Мэтамі зямельнай рэформы зьяўляецца карэктыроўка зямельнага кадастру, прававой базы з дапаўненьнямі да Канстытуцыі, права прыватнай уласнасьці на зямлю; заканадаўства аб зямлі, прадпрымальніцкай дзейнасьці, фермерскай гаспадарцы, акцыянерных таварыствах, мясцовым самакіраваньні і г.д. Плануецца вяртаньне ўласнікам альбо іх нашчадкам незаконна калектывізаваных зямель. У мэтах каардынацыйнага ўдасканаленьня прапанавана стварыць агульны ворган - Міністэрства лясной, рыбнай гаспадаркі і харчаваньня, а таксама новыя рынкавыя структуры гаспадарак, рэарганізаваць сетку сельскагаспадарчай адукацыі, у тым ліку падрыхтоўку фермерскіх кадраў. З мэтай стымуляваньня росту вытворчасьці сельскагаспадарчай прадукцыі прапануецца развіцьцё фермерскіх гаспадарак, малых перапрацоўчых прадпрыемстваў і г.д.

Праграмныя прапановы выклікалі абмеркаваньне, канструктыўныя заўвагі, але, як зазначыў прэм'ер-міністр Ценявога Кабінету У.Заблоцкі, аграрнай сферы неабходна вызначыцца на рынкавых прынцыпах, і дадзеная праграма ім адпавядае. Важкім пытаньням прыватызацыі і прыватнай уласнасьці на зямлю Л.Зданевіч прапанаваў прысьвяціць асобнае пасяджэньне.

Канцэпцыі Міністэрства адукацыі Ценявога Кабінету ў Праграме выратаваньня нацыі была прысвечана другая частка парадку дня. Падрыхтаваныя пад кіраўніцтвам Л.Баршчэўскага тэзісы перабудовы сістэмы адукацыі арыентаваныя на патрэбы незалежнай беларускай дзяржавы. Падкрэсьлена, што школа павінна быць адна - беларуская з дадатковым вывучэньнем моў і культур меншасьцяў. Дакладчыкамі Л.Баршчэўскім і В.Кузьміч, а таксама выступіўшым у абмеркаваньні Ю.Хадыкам сцьвярджалася неабходнасьць спалучэньня гуманізацыі адукацыі ў мэтах адраджэньня нацыі, акцэнтаваць увагу на выкладаньні нацыянальнай гісторыі і культуры, **з выхаваньнем у моладзі здольнасьці** існаваць у грамадзтве, **даючы асновы менэджменту**, юрыспрудэнцыі і інш. У заключэньне З.Пазьняк падкрэсьліў, што навукоўцам і практыкам у галіне адукацыі трэба працаваць над стварэньнем тэорыі нацыянальнага адраджэньня і тэорыі нацыянальнай школы.

### ГЕНАДЗЬ КАРПЕНКА НЕ БУДЗЕ БАЛАТАВАЦЦА НА БУДУЧЫХ ВЫБАРАХ У МЯСЦОВЫЯ ОРГАНЫ ЎЛАДЫ

Прыняты Вярхоўным Саветам законапраект "Аб унясеньні зьмяненьняў і дапаўненьняў да Закону Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым самакіраваньні і мясцовым гаспадараньні ў Рэспубліцы Беларусь" мэр Маладзечна Г.Карпенка пракаменціраваў так: "Мне здаецца, што дэпутаты разам з А.Р.Лукашэнка паправілі ўсе разуменьні аб вертыкалі. У рэспубліцы была вертыкаль на ўзроўні мясцовых саветаў. Таму мне не зразумелы нейкія кулуарныя прапрацоўкі, калі многім дэпутатам сталі прапаноўвацца пасады ў выпадку ўстанаўленьня такой вертыкалі. Называецца лічба ў 120 дэпутатаў, якія могуць разьлічваць на працу ў каманьдзе Прэзідэнта.

Што тычыцца маёй асабістай пазіцыі, то я буду працаваць старшынёй гарсавета Маладзечна да наступных выбараў у мясцовыя органы ўлады. Браць удзел у наступных выбарах я не буду таму, што не бачу ідэі, не бачу накірунку, у якім я мог бы працаваць разам з камандай Прэзідэнта".

### ГРЫБ ЦІКАВІЦЦА

Як паведаміў член Канстытуцыйнага суда РБ В.Фадзееў, старшыня Вярхоўнага Савета М.Грыб падаў у КС іск аб неадпаведнасьці Канстытуцыі Ўказа прэзідэнта аб стварэньні Адміністрацыі Прэзідэнта і ў яе складзе Камітэта па барацьбе з карупцыяй і Службы кантролю. Па словах спадара Фадзеева, гэты іск сьпікера быў адхілены, бо ён не быў афармлены належным чынам. М.Грыб падаў яго як дадатак да іску аб неканстытуцыйнасьці Ўказу Прэзідэнта аб перадачы ў распараджэньне Ўпраўленьня справамі Адміністрацыі прэзідэнта ўласнасьці Вярхоўнага Савета. Суддзя В.Фадзееў адзначыў, што калі іск будзе афармлены правільна, Канстытуцыйны суд прыме яго да разгляду. Аднак, па яго словах, пакуль паўторна іск не быў пададзены, хаця з часу яго вяртаньня прайшло паўтара тыдня. В.Фадзееў таксама заявіў, што разгляд іску аб незаконнасьці перадачы ў распараджэньне Адміністрацыі прэзідэнта ўласнасьці Вярхоўнага Савета адкладзены да абмеркаваньня парламентам пытаньня аб уласнасьці.

### ЖУРНАЛІСТЫ СУПРАЦЬ РАСПАЎСЮДЖВАНЬНЯ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ

У пачатку кастрычніка ў спорткомплексе Раўбічы пад Менскам прайшоў семінар журналістаў "Ядзернае нераспаўсюджваньне і роля сродкаў масавай інфармацыі". Яго арганізатары - Цэнтр па праблемах вайны і міру пры Нью-Йоркскім універсітэце і расейска-амерыканскі інфармацыйны прэс-цэнтр (Масква). У рабоце семінару прынялі ўдзел журналісты з Беларусі, Расеі, Украіны, Казахстана. Перад імі, у прыватнасьці, выступіў Марк Гібс, амерыканскі журналіст, які стала працуе ў Боне. Сумесна з Дэвідам Олбрайтам ён падрыхтаваў дакументальныя рэпартажы аб вайсковых праграмах Ірака і ЮАР. Сёлета Марк Гібс расьсьледаваў і надрукаваў факты перахопу ў Нямеччыне ядзернай кантрабанды быццам бы расейскага паходжаньня.

У рабоце семінару прынялі ўдзел судырэктар расейска-амерыканскага інфармацыйнага прэс-цэнтру Ў.Арлоў, прадстаўнік Мантэрэйскага інстытута міжнародных дасьледаваньняў Р.Цімербаеў і вядучы навуковы супрацоўнік інстытута ЗША і Канады Расейскай Акадэміі навук В.Давыдаў.

На семінары былі разгледжаны магчымасьці ўплыву міжнароднага становішча за мінулы год на вынікі канферэнцыі ААН па разгляду дзеяньняў і працягу дагавору аб нераспаўсюджваньні ядзернай зброі. У прыватнасьці, закраналіся праблемы нядаўніх ядзерных падзей на Карэйскім паўвостраве, ядзерны статус Украіны па дадзенаму дагавору. Таксама былі разгледжаны ядзерныя праблемы Беларусі і Казахстана, у тым ліку палітыка ў вобласьці нераспаўсюджваньня, праводзімая гэтымі краінамі, гэтак жа як Расеяй і Ўкраінай, і адпаведныя законы і выкананьне абавязкаў па скарачэньню ўзбраеньня.

### РАСПРАЦОЎВАЮЦЦА ДВА ВАРЫЯНТЫ «АСНОЎНЫХ НАПРАМКАЎ ЗЬНЕШНЕПАЛІТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ»

Як стала вядома, камісія Вярхоўнага Савета па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях сумесна з Міністэрствам замежных спраў распрацоўваюць два варыянты гэтага дакумента. Гэта не зьнешнепалітычная дактрына, якая ўяўляе сабой закрыты дакумент, а яе канспектыўны праўабраз, які будзе вынесены на абмеркаваньне парламента на бягучай сесіі. На думку высокапастаўленага прадстаўніка МЗС, выносіць абодва варыянты на разгляд ВС не разумна, паколькі гэта толькі заблытае дэпутатаў. Ён ухіліўся ад адказу на пытаньне аб характары рознагалосьсяў паміж аўтарамі двух праектаў.

### ПАРЛАМЕНТ НЕ ПАДТРЫМАЎ УРАД

Беларускі парламент не ратыфікаваў "Пагадненьне СНД аб прававых гарантыях дзейнасьці міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Мір". Для прыняцьця станоўчага рашэньня не хапіла 9-ці галасоў. Супраць выступілі, у асноўным, дэпутаты нацыянал-дэмакратычнай арыентацыі, якія лічаць недапушчальным маскоўскую інтэрпрэтацыю навін. Парламенцкія аглядальнікі не памятаюць іншага пагадненьня краін СНД, якое было б парафіравана беларускім урадам, але не ратыфікавана Вярхоўным Саветам.

### ЯКІ Ж ПАРЛАМЕНТАРЫЙ БУДЗЕ РУБІЦЬ СУК, НА КАТОРЫМ СЯДЗІЦЬ

Як стала вядома ад добра інфармаваных крыніц у Вярхоўным Савеце Беларусі, у праект закону аб дзяржтаямніцы ўнесены дадатак, які абмяжоўвае тых, хто валодае сакрэтнай інфармацыяй. Тычыцца гэта пакуль што толькі замежных паездак. На думку інфармадаўцы, гэта можа прывесьці да поўнага правалу законапраекту ў цэлым, паколькі многія парламентары, якія трапяць пад дзеяньне закону, не пажадаюць ні сёньня, ні ў будучым ускладняць сабе замежныя паездкі.

**СІМ**



# ЧАМУ ТАКОЕ ГАРОТНАЕ НАША ЖЫЦЦЁ?

**(Пачатак на 1-й ст.)**

Падобнае адбываецца і на Беларусі. Пасьля Віскулёў, у якіх самой гісторыяй былі дараваны свабода і незалежнасьць народу Беларусі, лідэры, каб толькі ўтрымацца ва ўладзе, пачалі гандляваць імі. Дземіяўны адкрыта хацеў вяртаньня да старога. Шушкевіч думаў, што ў палітыцы могуць быць "і Богу сьвечка, і чорту кацюба". Толькі Кебіч хітра і ўпотай паступова прадаваў суверэнітэт рэспублікі (яго, верагодна, задавальняла роля генерал-губернатара).

Вось чаму такія дрэнныя нашы справы!

Абнадзейвае толькі тое, што ўсё, што робіцца пасуперак цьвярозаму розуму і волі народа, - кароткатэрміновае. Узяць хаця б падзел Нямеччыны. Усё было зроблена штучна, таму праіснавала толькі сорак гадоў. Так і СССР у тым выглядзе, у якім ён быў, не мог доўга існаваць.

Але ж што робяць новыя кіраўнікі Беларусі? Насуперак цьвярозаму розуму, для задавальненьня сваіх амбіцый, спасылаючыся на цяжкасьці (часовыя), зноў лезуць у блокі, ствараюць саюзы. Нічога талковага, стабільнага з гэтага не атрымаецца - такія рэаліі гісторыі і дыялектыкі. Насьцярожвае ў новым урадзе таксама і тое, што вуснамі сьпікера парламенту было сказана Кебічу "дзякуй" "за тот колоссальный труд на благо народа". А за што? За спусташэньне дзяржаўнага бюджэту, за каласальны дзяржаўны доўг, развал эканомікі, сабатаж пераходу да рынку, марудныя і непасьлядоўныя рэформы? Гэта што, аванс на выпадак, калі цяперашні ўрад гэтак жа "плённа" папрацуе, каб і яму іншыя дачасьнікі палітыкі сказалі "дзякуй"? Але найбольшая трагедыя заключаецца ў тым, што кіраўнік ураду за развал эканомікі, давядзеньне народа да галечы ніякай адказнасьці не панёс. Гэта ўсё вынік таго, што нашыя кіраўнікі-дачасьнікі толькі на словах за народ, а на справе - прагнуць улады. Кебіч - таму яскравы прыклад.

Улада абясцэнілася: аб'явіла сябе дэмакратычнай, не зьяўляючыся такой. Толькі працэдуры абраньня для гэтага мала. Цяпер кожны жадае пагуляць ва ўладу. А страх згубіць яе штурхае на самыя невераґодныя хады. Успомніце толькі перадвыбарчую ўлётку Кебіча з характарыстыкай Лукашэнкі. Не жорсткія законы, якімі прэзідэнт зьбіраецца ліквідаваць злачыннасьць, крызіс у эканоміцы, а толькі непазьбежнасьць пакараньня за злачынствы зьменшыць іх колькасьць. Трэба, каб любы высокапастаўлены чыноўнік не мог пазьбегнуць адказнасьці за парушэньні. А то што атрымліваецца? Селянін, рабочы, служачы за нейкую тысячу, скрадзеную з-за цяжкага матэрыяльнага становішча, атрымлівае "под завязку", а чыноўнік, дзякуючы сувязям і грошам, пазьбягае пакараньня.

Трагічнасьць і абсурднасьць пасьляпутчавага перыяду яшчэ ў тым, што ў сьвядомасьці большасьці людзей замацавалася думка, што высокапастаўленая асоба разумнейшая за іншых. Для іх даволі перакананыча гучала: "Я - начальнік, ты - дурань", а "истина в последней инстанции" рабіла іх пакорнымі.

Праўда, у апошніх выступах Прэзідэнта Беларусі зьявіліся абнадзейваючыя прыкметы, калі ён гаворыць, што толькі ўласнымі рукамі мы можам палепшыць сваё жыцьцё і што неабходна самастойная незалежная палітыка. Штосьці ён ужо пачаў рабіць у гэтым накірунку. Дай Бог! Пажывем - убачым.

**АГЛЯДАЛЬНІК.**







# СЯРОД СВАІХ

**ГЭТА АПОВЯД АБ ВІТАЎТАСЕ ВІТКУНАСЕ, ЧАЛАВЕКУ, АБДЗЕЛЕНЫМ ЛЁСАМ, АЛЕ ЗНАЙШОЎШЫМ СВАЁ МЕСЦА ПАД СОНЦАМ**

**У 1937 годзе ў сям'і селяніна Аляксандраса Віткунаса і яго жонкі Эляны, якія жылі ў вёсцы Бурбішкіс Анікшчайскага раёна, зьявіўся першанец - Вітаўтас. Бацькі былі вельмі ўражаны: хлопчык нарадзіўся без рук. Ішлі гады... У сям'і Віткунасаў нарадзілася яшчэ пяцёра дзяцей: чатыры дачкі і сын - усе фізічна разьвітыя дзеці. Малодшыя вельмі клапаціліся аб старэйшым брацiку, ва ўсім яму дапамагалі.**

Вітаўтас рос рухавым і кантактным, бязконца з ахвотаю гуляў з суседзкімі дзецьмі ў розныя гульні, канешне, у рамках сваіх магчымасьцяў. Пальцамі ног ляпіў з гліны разнастайныя фігуркі, цацкі. Як і ўсе хлапчукі, ён жадаў гуляць у вайну, таму з дапамогай ног змайстраваў сабе пісталет. Пазьней навучыўся пісаць і маляваць, заціснуўшы аловак у зубах ці трымаючы яго пальцамі правай нагі. Сёньня ён не памятае, як пачаў пісаць: ці ротам, ці нагою. Як і ўсім дзецям, яму падабалася чытаць казкі.

Хадзіць да звычайнай школы Вітаўтас не мог. Але ў 1957 годзе скончыў экстэрнам сямігадовую школу. Піша ён амаль каліграфічна. Дарэчы, Вітаўтас з дзяцінства любіў складаць вершы. Каля 300 ягоных твораў былі апублікаваныя ў раённых і рэспубліканскіх газетах і часопісах.

Пасьля заканчэньня сярэдняй школы Вітаўтас вырашыў паступаць у Віленскі ўніверсітэт на гісторыка-філалагічны факультэт і вывучаць летувіскую мову і літаратуру. У 1961 годзе ў суправаджэньні сястры Генавайтэ прыехаў у Вільню і пасьпяхова вытрымаў уступныя іспыты. Вітаўтас і па сёньняшні дзень удзячны былому рэктару ўніверсітэта Йонасу Кубіліюсу, клопатамі якога яму з сястрой быў выдадзены пакой у інтэрнаце. Непрыкметна прабеглі пяць год навучаньня.

У 1966 годзе В.Віткунас скончыў універсітэт і атрымаў дыплом. Пэўны час працаваў у Летувіскім тэлеграфным агенцтве (ЭЛЬТА) перакладчыкам. У 1969 годзе перайшоў працаваць рэдактарам-стылістам у выдавецтва "Мінціс", дзе працуе і да сёньняшняга дня. У асноўным ён рэдагуе гістарычныя кнігі.

Шмат дапамагаюць Вітаўтасу сястра Данутэ і астатнія хатнія, якія жывуць разам з ім. Данутэ Кацінэнэ працуе. Акрамя таго, у яе шмат сямейных спраў, але каб паклапаціцца аб браце - пагаліць, дапамагчы апрануцца - заўсёды хапае часу. Між іншым, карміць Вітаўтаса спецыяльна не трэба - з гэтым ён спраўляецца сам. Пры дапамозе вуснаў здымае тэлефонную трубку, заціснуўшы ў зубах аловак, набірае патрэбны нумар.

Адпачынак свой Вітаўтасу Віткунасу вельмі падабаецца праводзіць на радзіме - у вёсцы Бурбішкіс.

(з.д.)



# НАВІНЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Управай горада Гайнаўкі абмеркаваны праект герба горада. Як вядома, герб існаваў, але, як кажуць, быў нефармальным, бо яго ніколі не зацьвярджала Ўправа.

Сакратар Управы Е.Серак сказаў, што прапанаваны камісіяй па геральдыцы праект герба - пакуль што толькі пачатак на шляху да сапраўднага стварэньня герба Гайнаўкі.

* * *

У Мельніку неўзабаве будзе створана яшчэ адна памежная застава. Дзякуючы гэтаму стане магчымым адкрыцьцё новага памежнага пераходу ў Такарах.

Таксама мяркуецца, што новая застава ўзмоцніць бясьпечнасьць дзяржаўнай мяжы на поўнач ад ракі Буг.

Вядома, што паўднёва-усходнюю мяжу на Беласточчыне ахоўваюць дзьве заставы: у Чаромсе і Белавежы.

* * *

Сьвята кліента адбылося 15 кастрычніка на бельскім прадпрыемстве "Unibud". Вытворцы прапанавалі сваім пакупнікам будматэрыялы: фарбы, лакі, пакосты разнастайных гатункаў, а таксама мэблю і многае іншае.

Той, хто набыў тавараў больш як на паўмільёна, атрымаў магчымасьць удзельнічаць у розыгрышы латарэі.

Фэст вызначыў, што добрападрыхтаваная акцыя - гэта не толькі рэклама, а і адпачынак людзям.

* * *

У Белавежы з вуліц пазьнікалі сьметніцы (бо замалыя па аб'ёму, каб да іх згружаць упакоўкі ад тэлевізараў ці магнітафонаў), таму турысты з Усходу кідалі сьмецьце проста на маставую.

З гэтай нагоды войт Белавежы пані Ганна Байко дала загад забясьпечыць вуліцы горада больш ёмістымі сьметніцамі.

* * *

У Дубінах на Гайнаўшчыне рамантуюць тратуары, добраўпарадкоўваюць могільнікі, будуюць капліцу. Усе выдаткі сфундаваны з мясцовай казны, якую ў значнай ступені папаўняюць гандляры-карабейнікі з тэрыторыі былога СССР.

Вось і нам бы так.

* * *

Распрацаваны план агульнага добраўпарадкаваньня Беластока. Праект распрацаваны аўтарскім калектывам пад кіраўніцтвам Зьдзіслава Пліхты. Праект прадугледжвае рэгенерацыю старой часткі горада і забудову новых раёнаў пераважна двух- і трохпавярховымі катэджамі.

* * *

Тэкстыльная фабрыка з Васількова падчас III Восеньскага спажывецкага фестывалю ў Шчэціне атрымала залаты медаль за ваўняныя тканіны (фляўш).

* * *

У Сямёнаўцы фірма "Фармбест" з Бельска Падляскага адкрыла завод па вырабу штучных угнаеньняў.

Па праекту завод у дзень будзе выпускаць 250-300 тон мінеральных угнаеньняў, якія па сабекошту таньнейшыя за замежныя на 700-800 тысяч злотых.

* * *

У Сейнах Брацтвам праваслаўнай моладзі з Беластока пад лозунгам "Ад Жэжова да Рэйнаў" быў арганізаваны фэст, мэта якога - узьяднаньне хрысьціян Эўропы розных канфесій.

* * *

З кастрычніка пачалося падвышэньне коштаў на камунальныя паслугі і многае іншае. Так, гарачая вада ў Беластоку падскочыла ў кошце на 30%, цэнтральнае ацяпленьне - на 17%, гарадскі транспарт, гарэлка - на 15%, аўтамабілі "Фіат" мясцовай вытворчасьці - на 2%.

* * *

Прапанову аб арганізацыі Нарэўскага нацыянальнага парка ўнесьлі 8-га верасьня ў Міністэрстве Аховы акаляючага асяроддзя беластоцкі і ломжынскі ваяводы. Згодна з праектам, яго абшары складаць 7350 га багнаў у даліне ракі Нарэў, з якіх 6300 га знаходзяцца на тэрыторыі Беластоцкага ваяводзтва (гміны Хорошч, Тыкоцін, Туросьнь Косьцельна, Лапы і Сураж). Невыключана, што новы парк будзе арганізаваны яшчэ ў гэтым годзе.

* * *

12 верасьня прэзідэнт Беластока прызначыў адказнага за справы разьвіцьця аэрапорта Крыўляны. Яго найпершым заданьнем зьяўляецца пачатковая арганізацыя малога камунікацыйнага аэрапорта. Пройдуць перамовы з мэтай падпісаньня ўмоў з прыватным кансорцыумам, які змог бы прадставіць на гэты праект 20-30 мільярдаў злотых. Плануецца, што кансорцыум, які займецца гэтай дзейнасьцю, мог бы таксама, пры магчымасьці, займацца і іншай справай, напрыклад, збудаваць невялікі гатэль ці мытны склад. Аэрадром Крыўляны даў бы магчымасьць хутчэйшага ўсталяваньня камунікацыйных зносін паміж Беластокам і Горадняй.

* * *

У Беластоку распачаў сваю дзейнасьць Універсітэт III Веку. У Польшчы існуе 14 школ такога тыпу, лепшая з іх знаходзіцца ў Лодзі. На думку прафесара В.А.Сэрчыка, прарэктара па справах Філіі Варшаўскага Універсітэта, і аднаго з ініцыятараў гэтай прапановы, Універсітэт павінен быць аб'яднаньнем старых людзей, якія, нягледзячы на тое, што ўжо не ў стане працаваць па спецыяльнасьці, не перастаюць быць дзейнымі інтэлектуальна. Не абавязковыя і бясплатныя заняткі па шматлікіх дысцыплінах будуць праводзіць спецыялісты, а канцэрты і дыскусіі зробяць заняткі больш разнастайнымі.

* * *

У Беластоку фарміруецца 18-я танкавая брыгада. На яе ўзбраеньні ў кашарах па вул. Кавалерыйскай знаходзяцца 7 танкаў "Т-55" і 60 машын.

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Урад Летувы зацьвердзіў Правілы перавозкі на тэрыторыі краіны небясьпечных і ваенных грузаў замежных дзяржаў. Гэтыя грузы, а таксама няўзброеных вайскоўцаў і грамадзянскіх асоб дазваляецца правозіць па Летуве толькі пасьля атрыманьня адзінасасовага дазволу транспартнай службы Міністэрства аховы краю, які выдаецца ў выпадку ўхваленьня Сеймам Летувы. Забараняецца транзіт зброі масавага зьнішчэньня - ядзернага, хімічнага, біялагічнага. Ваенныя перавозкі могуць ажыцьцяўляцца толькі па чыгунцы.

Адначасова праз Летуву дазваляецца правозіць не больш 180 няўзброеных вайскоўцаў іншаземных дзяржаў без права выхаду на тэрыторыю краіны.

* * *

Прэзідэнт Акадэміі навук Летувы Б.Юодка і прэзідэнт Нацыянальнай Акадэміі навук Украіны Б.Патон падпісалі дагавор аб супрацоўніцтве. Ім прадугледжваецца на працягу пяці гадоў абмен спецыялістамі, правядзеньне агульных семінараў, сумесных дасьледаваньняў і экспертыз.

* * *

Калі летась гандаль Летувы з Захадам склаў 20 працэнтаў усяго зьнешняга гандлю, то за першае паўгоддзе бягучага году гэты паказчык наблізіўся да 50 працэнтаў. Пераарыентавацца, у прыватнасьці, вымусіла падвоенае падаткаабкладаньне ўвозімых у Расею тавараў. Хаця дагавор аб рэжыме найбольшага добраспрыяньня ў гандлі з Расеяй падпісаны яшчэ ў 1993 годзе, ён не ратыфікаваны расейскім парламентам.

Буйнымі зьнешнегандлёвымі партнёрамі Летувы зараз зьяўляюцца Расея, Нямеччына, Беларусь, Украіна, Латвія, Польшча.

* * *

У Вільні адкрылася першая ў краінах Балтыі Акадэмія парапсіхалагаў. Слухачамі яе сталі 150 чалавек. Выкладаць у вузе будуць парапсіхолагі з Летувы, Нямеччыны, Кітая, Расеі і Японіі. Працягласьць навучаньня - чатыры гады. Пасьля заканчэньня слухачы атрымаюць дыпломы, якія дзейнічаюць у тых краінах, дзе ёсьць асацыяцыі парапсіхолагаў.

* * *

На 1000 жыхароў у Летуве нараджаецца 14,3 дзіцяці. Калі летась натуральны прырост насельніцтва ў краіне складаў 620 чалавек, то ў бягучым годзе, пачынаючы з ліпеня, ён стаў адмоўным. Павялічылася і колькасьць абортаў: на кожныя 100 чалавек прыпадае 75. Гэтая медыцынская паслуга каштуе зараз 20-25 даляраў.

* * *

Ва ўніверсітэтах ЗША зараз вучацца 377 грамадзян Летувы. З 1992 года пасольствам ЗША выдадзена 299 студэнцкіх віз і 78 - у рамках праграмы абмена студэнтамі. Вышэйшыя школы Швецыі прынялі сёлета 80 студэнтаў і стажораў з Летувы.

* * *

У Тракайскай Цэнтральнай бібліятэцы адкрылася выстава, прысьвечаная 55-годдзю вяртаньня Летуве Вільні і Віленскага краю. На ёй прадстаўлена літаратура аб падпісаньні 10 кастрычніка 1939 года дагавору аб перадачы Летуве Вільні і Віленскага краю, інтэграцыі яго ў Летуву, а таксама кнігі па архітэктуры, мастацтву, адукацыі ў Віленскім краі.

**МГ-ЛР**

# ШТО НОВАГА Ў МУЗЕІ?

Будаўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы распачалося ў 1986 годзе. За восем гадоў будовы зьмянілася не толькі палітычная, але і эканамічная сітуацыя на Беласточчыне. Разам з гэтымі зьменамі перайначылася і архітэктурная канцэпцыя будучага музея.

На сёньняшні дзень будынак музея ўжо збудаваны. Засталося толькі выканаць вонкавыя і ўнутраныя аздабленьні сьценаў. Справа гэта вельмі адказная і ў значнай ступені марудная. Музей павінен па духу і архітэктуры адпавядаць усім гістарычным традыцыям беларусаў Беласточчыны. Каб выканаць усё адпаведным чынам, патрэбны грошы. А іх, як вядома, няма. Таму ніхто канкрэтна не ведае, колькі часу спатрэбіцца для заканчэньня апрацоўчых работ. Усё залежыць ад фінансаў. Намесьнік старшыні будаўніцтва музея Аляксандр Харкевіч з гэтай нагоды вырашыў зьвярнуцца да ўсёй беларускай інтэлігенцыі, якая б магла патлумачыць беларусам з блізкага і далёкага замежжа неабходнасьць хутчэйшага заканчэньня будаўніцтва. Калі б кожная сям'я ахвяравала б на музей 50 тысяч злотых (а мяркуецца, што такіх сем'яў толькі ў Польшчы дзесьці каля 100 тысяч), музей адкрыўся б у бліжэйшы час.

Дагэтуль на будаўніцтва музея выдаткоўвалі сродкі толькі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь - 30% ад агульнай сумы, 30% - Міністэрства культуры і мастацтва РП, 30% - гміны, прадпрыемствы, установы, 10% - прыватныя асобы.

Але гэта не адзіны шлях, якім вырашаецца праблема. Усе супрацоўнікі музея вядуць гаспадарчую і камерцыйную дзейнасьць, шукаюць тых, хто жадае арэндаваць памяшканьне ці пакой пад офіс, краму. І гэта дало ўжо свае першыя вынікі. Трымае тут свой офіс фірма UNIBUD, турыстам даецца права карыстацца платным начлегам, у скляпеньнях працуе камера захаваньня рэчаў, гардэроб для рабочых Бельскага будаўнічага прадпрыемства. Таксама здаюцца залы на вясельлі, банкеты, прэзентацыі і іншыя ўрачыстасьці. Летась ад такой дзейнасьці хапіла грошай, каб аплаціць усе бягучыя кошты, выдаткі, працу штатных супрацоўнікаў, ды яшчэ засталося 100 мільёнаў злотых прыбытку.

Найменш дапамогі ідзе ад грамадзтва. Але да яго ў калектыва няма крыўдаў. Грамадзтва прастаміласяад надакучлівых просьбаў. Будаўніцтва - гэта дзяржаўная справа. А дзяржава мала дапамагае нават сваім грамадзянам. Вось прыклад. Раней сяляне, гараджане дарылі музею шмат экспанатаў. Зараз - усё наадварот. Жаданьне зарабіць, каб забясьпечыць сям'ю, вымушае большасьць прадаваць свае ручнікі, іконы, вышыўкі заходнім камерсантам. Канешне, калі б у нас былі даляры, мы б і ўзялі куплю, але дзе іх узяць? І ўсё-такі, нягледзячы на цяжкасьці, музей мала-памалу зьмяняе ў лепшы бок свой вонкавы выгляд. Зараз звонку ідзе тынкоўка, а ў сярэдзіне кладуць мазаічныя пліткі. Найбольшую дапамогу аказвае Гайнаўшчына. Больш інертнымі выглядаюць Беласточчына і Сакольшчына. Хачу нагадаць, што музей - наша супольная гісторыя, і яе трэба захоўваць. А пакуль што ўсе будаўнічыя працы выконвае, як і раней, Бельскае будпрадпрыемства. У хуткім часе будзем наводзіць парадак на пляцы. Тады зможам падключыць будынак да дарожнай сеткі горада. Потым узьвядзем браму згодна нашай беларускай традыцыі. Ёсьць цікавы, адмысловы праект. Зрабіўшы ўсё як сьлед, мы зможам разбурыць міфы накшталт таго, што "маўзалей будуюць, а не музей". А яны пакуль што моцныя, і аўтары іх - варожыя сілы, якія не жадаюць чуць беларускае слова на Беласточчыне.

**"НІВА"**



## *КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА*

**Мінулы тыдзень ледзьве ня стаў рэкордным на крымінальныя здарэньні. Усяго зарэгістравана 218 злачынстваў і здарэньняў, у іх ліку 14 цялесных пашкоджаньняў, 6 рабаваньняў, 52 крадзяжы дзяржаўнай і 75 - асабістай маёмасьці грамадзян.**

**У 24-х дарожных аварыях тры чалавекі загінулі і 26 паранена. Дзьве аварыі на сумленьні нецьвярозых вадзіцеляў.**

**За гэты ж час адбыліся 3 пажары.**

ЦЯЛЕСНЫЯ ПАШКОДЖАНЬНІ

Фабулы ўсіх цялесных пашкоджаньняў не розьняцца разнастайнасьцю. Як правіла, усе яны зьвязаны з ужываньнем моцных напояў. Характэрным у гэтым сэнсе з'яўляецца выпадак у Наваградзкім р-не. Там, на дарозе ля вёскі Карастова, знойдзены з цялеснымі пашкоджаньнямі двое маладых трактарыстаў мясцовага саўгаса-тэхнікума. Хлопцы гэтак перапіліся, што ня памятаюць нават, што з імі здарылася...

* * *

А вось здарэньне ў Казлоўшчынскім ПТВ Дзятлаўскага р-на хаця і здзейсьнена ў цьвярозым стане, але таксама зьвязана з саракаградуснай. Там двое навучэнцаў пачалі патрабаваць у калегі грошай на моцныя напоі, а калі той заўпарціўся, то пачалі збіваць яго. Але няроўная бойка працягвалася нядоўга: выхапленым з кішэні сьцізорыкам пэтэвэшнік адправіў абодвух крыўдзіцеляў у шпіталь - нанёс ім нажавыя раненьні.

АБРАБАВАНЬНІ

У Мастах вайсковец тэрміновай службы, які прыехаў дамоў на пабыўку з Віцебска, таксама абрабаваў свайго калегу, які знаходзіўся ў звальненьні. Пасьля гэтага вайсковы білет, вадзіцельскае пасьведчаньне і наручны гадзіньнік папоўнілі сьціплы скарб вадпускніка.

* * *

У Горадні 35-гадовы рабаўнік адабраў 256 даляраў у свайго знаёмага пасьля сумеснага застольля на кватэры пацярпелага.

* * *

На вуліцы 17 верасьня двое злачынцаў напалі позна вечарам на рабочага аднаго з гарадзенскіх МП. Адбіваючыся ад рабаўнікоў 23-гадовы хлопец адкінуў у бок кайстру з далярамі, дакументамі і дробнымі рэчамі - каб не перашкаджала. Тады адзін са злачынцаў хуценька зарыентаваўся і з паднятаю кайстрай кінуўся наўцёкі.

МАХЛЯРСТВЫ

У міліцыю зьвярнуліся дзьве жыхаркі абласнога цэнтра, якія яшчэ зімой перадалі супрацоўніцы праектнай установы грошы за садзейнічаньне ў атрыманьні кватэр. Але, відаць, адпаведна 1,3 і 1,1 млн. "зайцоў" аказаліся недастатковымі сумамі, каб падмасьліць справу.

* * *

А вось трое злачынцаў каля прыгараднага п.Паўднёвы хаця дзейнічалі і не так вытанчана, але ўсё ж здолелі "абуць" даверлівага паляка. Пацярпелы меў неасьцярожнасьць даверыць "пакупнікам" свой БМВ - для выпрабаваньня легкавіка. Відаць па ўсім, што "выпрабаваньне" зацягнулася...

РЭКЕТ

Не ўдалося двум сталічным "ракетчыкам" разжыцца ў Ашмянах 200 "зялёнымі". Незгаворлівы "кліент" не пабаяўся зьвярнуцца ў міліцыю і не прагадаў: даляры - на месцы, а менчукі - за кратамі.

АДГОНЫ

Сярод 5 адгонаў нязвыклым сцэнарам адрозьніваецца той, што адбыўся ноччу ў нядзелю ў Горадні на зав.Віленскім.

Калі незнаёмы на падпітку сеў у "Мэрс" студэнта Гарадзенскага ўніверсітэта і патрабаваў адвезьці яго на БЛК, вадзіцель адмовіўся. У адказ "пасажыр" выпіхнуў гаспадара з салона і паехаў... да бліжэйшага бардзюра. Сам жа злачынца ўцёк.

ХУЛІГАНСТВЫ

Відаць узлаваўся на сваё начальства слесар к-са "Зара" Ваўкавыскага р-на. На падпітку 22-гадовы вясковец сарваў злосьць на калгаснай канторы, па вокнах якой ён прайшоўся выхадным днём з рыдлёўкаю.

* * *

З мэтай абрабаваньня трое маладых злачынцаў зайшлі ў кватэру ксяндза Фарнага касьцёла ў Горадні і пабілі гаспадара. З сабою ж рабаўнікі пасьпелі захапіць толькі некалькі хатніх рэчаў. Адзін са злачынцаў затрыманы.

КРАДЗЯЖЫ

З крадзяжоў дзяржаўнай і грамдзкай маёмасьці выдзяляюцца тыя, якія ўчынены з крамаў спажывецкай кааперацыі. За тыдзень здарылася пяць такіх злачынстваў - у асноўным у паўночных раёнах Гарадзеншчыны. Найбольш значны з іх зарэгістраваны ў в.Гарэцкаўшчына Ашмянскага р-на. Злодзей праз узламаныя дзьверы трапіў у краму і вынес адтуль тавараў на суму звыш 1,3 млн. рублёў. На гэты раз, аднак, злодзею - жыхару Валожынскага р-на не пашанцавала і ён быў затрыманы.

* * *

З асабістай маёмасьці найбольшую цікавасьць злачынцаў выклікалі аўтамагнітолы. Такіх крадзяжоў на тыдні зафіксавана звыш 20. Напрыклад толькі за адну ноч аўтаўладальнікі, якія пакінулі свае легкавікі на вул.Славацкага, не далічыліся трох магнітол.

* * *

У сераду злодзеі пранікլі ў кватэру начальніка аддзела ВА "Хваля", які пражывае на праспекце Будаўнікоў, і вынесьлі адтуль 15 аўтамагнітолаў "Гродна-302", залатыя і срэбраныя вырабы, а таксама 3500 даляраў.

ЗЛАЧЫНСТВЫ ТЫДНЯ

З пакоя інтэрната па вул.Школьная ў Ваўкавыску скрадзена ікона "Ісус Хрыстос" 17-га стагоддзя, якая належыла рабочай раённай бальніцы.

* * *

Вельмі дзіўны крадзёж здзейсьнены ў Скідалі. Там праз выбітае шкло злодзей забраўся ў дзіцячую бібліятэку і скраў адтуль старыя падшыўкі газет і часопісаў.

СТРАЛЯНІНА

Пошукі адагнанага "Масквіча" прывялі міліцыянтаў Кастрычніцкага РАЎС да в.Кашэўнікі, дзе яны і ўбачылі прапажу, а ля яе - двух маладых хлопцаў. Убачыўшы міліцыю, злодзеі кінуліся ўцякаць і толькі два стрэлы ўгору спынілі аднаго з іх. Злачынец затрыманы.

СКАНДАЛ

Былы дырэктар МП "Ірыда" А., дарэчы грамадзянін Расеі, незаконна атрымаў у ВКФ "Сузор'е" 17 млн. рублёў і разам з імі зьнік у невядомым напрамку.

НЯШЧАСЬЦІ

У в.Пасынкі Ваўкавыскага р-на шнурком ад пустышкі задушылася гадавалае дзіця, пакінутае без нагляду.

* * *

На ферме ў в.Чухны Смаргонскага р-на племянны бык задушыў 32-гадовага даглядчыка.

**У.ДАНІЛОВІЧ.**



## АКТЫЎНАЕ ДОЎГАЛЕЦЦЕ

Восіпу Андрэевічу Таранка, жыхару в.Бандары Гарадзенскага раёна ўжо 98 гадоў. Можа, не зьдзіўлю такім паведамленьнем нікога, так як да гэтага ўзросту дажываюць і другія. Але... ня многія з іх захоўваюць працаздольнасьць. А вось у Восіпа Андрэевіча яна захавалася да гэтага часу, хоць пражыў сваё жыцьцё ня лёгка. З дзіцячых гадоў спазнаў цану хлеба, працуючы на кавалачку бацькоўскай зямлі. А калі вырас, зьведаў жаўнерскі лёс у акопах Першай сусьветнай і грамадзянскай войнаў, быў паранены. На радзіму вярнуўся толькі ў 1922 годзе, дзе разам з бацькамі давялося наводзіць парадак на зямельцы. І зараз Восіп Андрэевіч не сядзіць без справы: вясной і летам - на агародзе, восеньню - у лесе на нарыхтоўцы дроў, зімой - адмятае сьнег з падворка, а ў вольны час шмат чытае.

**На здымку: В.А.Таранка.**

**Фатаграфаваў Ільля БАРЫСАЎ.**

## СХВАТКА НА ВАЛЧЭЦКАГА

У гадзіну ночы 23-га кастрычніка ў Наваградзкім ГРАЎС раздаўся званок. З прахадной хлебазавода паведамілі, што ля будоўлі новага дома па вул.Валчэцкага двое злачынцаў сякуць кабель. Калі нарад міліцыі прыбыў на месца, злодзеі схаваліся ў новабудоўлі і пачалі кідаць у яго цаглінамі. У адказ вартавыя правапарадку пачалі спачатку страляць угору, а потым кінуліся на штурм імправізаванай крэпасьці.

Падчас рукапашнай сутычкі адбыўся неспадзяваны пісталетны стрэл, якім быў паранены ў руку з уласнага "Макарава" старшыня міліцыі. Але адзін са злодзеяў усё ж быў затрыманы. Ім аказаўся неадназова судзімы 28-гадовы жыхар г.Жлобіна.

**Георг СЫСОЙ.**

## НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ ЛЮБЯЦЬ КУБКІ

Прайшлі чарговыя гульні чэмпіянату Беларусі па футболу, якія прынесьлі некалькі нечаканых вынікаў.

Другі раз запар прайграе флагман беларускага футболу "Дынама". На гэты раз з лікам 0:1 землякам-тарпедаўцам. На фінішы I-га тура прытармазіў Віцебскі КІМ: ён згуляў у нічыю (0-0) ў Магілёве з мясцовым "Дняпром", але ўсё ж такі захаваў пяціачковы адрыў ад сваіх галоўных праследвацеляў - трох сталічных каманд і бабруйскага "Фандока", які, нягледзячы на паражэньне ў гасьцях ад "Дынама-93" (1:2), апусьціўся толькі на адну ступеньку ўніз.

Захаваў за сабой шостае месца гарадзенскі "Нёман", які падзяліў ачкі (1:1) у Лідзе з "Абутнікам".

Зьдзіўляе ФК "Маладзечна", якой пасьля перамогі над чэмпіёнам "накаўціраваў" (3:0) у Салігорску "Шахцёр". Дарэчы, фінішныя гульні для каманды Л.Румбуціса ня вельмі складаныя: "Шыньнік" і "Лакаматыў", якіх "Маладзечна" прымае дома.

Што не кажы, а інтрыга завязваецца ня кепская. Ёсьць надзея, што праз год-другі ўсё менш скептыкаў будзе ківаць на мястэчкова-правінцыяльны характар беларускага чэмпіяната.

* * *

У жаночым футбольна-кубкавым турніры зноў вядучыя пазіцыі ў прадстаўнікоў Магілёўшчыны, Чыста магілёўскі фінал: "Трыкатажніца" (Бабр.) - "Надзея" (Мг.) - 0:2.

**І.ПРЫВАРОЦКІ.**

## «НЁМАН» І «ПАЛІМІР» У ЛІДЭРАХ

Мінулы тыдзень быў сваім для трох беларускіх хакейных клубаў, выступаючых ў адкрытым чэмпіянаце Расеі па хакею. "Палімір" двойчы на сваёй пляцоўцы перамог (2-1 і 5-2) гарадзенцаў. Затым у сваю чаргу ўжо "Нёман" у ролі гаспадароў экзаменаваў менскую каманду "Юнацтва". Лік сустрэч 7-2 і 7-4 на карысьць больш вопытных падапечных А.Варывончыка.

**Г.Н.**

## «РЫТМ» ЕДЗЕ Ў РАСЕЮ

На адрас чэмпіёна Беларусі хакейнага клуба "Рытм" прыйшло запрашэньне ўзяць удзел ў міжнародным хакейным турніры па індорхакею (хакей пад дахам) у расейскім горадзе Электрасталь. Турнір прысьвечаны пачэснаму прэзыдэнту федэрацыі хакею на траве А.Л.Лейкіну і залічаны да міжнародных спаборніцтваў пад эгідай "ФІХ".

У гульнях возьмуць удзел шэсьць жаночых клубаў з Аўстрыі, Украіны, Расеі, Малдовы і Беларусі.

Дарэчы, флагману беларускага летняга хакею для ўмацаваньня фінансавага становішча патрэбны спонсары. За фундатарскія справы ХК "Рытм" бярэцца рэкламаваць тавары фірмаў. Кантактны тэлефон ХК "Рытм" - 44-12-42.

**Г.У.**

## СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКІХ І НЯМЕЦКІХ СТРАХОЎШЧЫКАЎ

У пачатку кастрычніка ў Менску праходзіла сустрэча страхоўшчыкаў, арганізаваная Беларускім Страхавым Саюзам і Ўсегерманскім Саюзам Страхоўшчыкаў пры садзейнічаньні Страхавога таварыства "Альтэ Лейпцыгер"(Германія). На ёй прысутнічалі буйныя страхавыя фірмы Германіі, больш за 50 беларускіх страхавых кампаній, прадстаўнікі страхавога бізнэса з ЗША, Францыі, Расеі. Адзначалася, што страхаваньне па сваёй сутнасьці заўсёды сацыяльнае, а таму ва ўмовах сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі трэба забясьпечваць дадатковую абарону грамадзян у сферы медыцынскага страхаваньня, пенсіённага забеспячэньня і іншых.

На сустрэчы былі абмеркаваны пытаньні недзяржаўнага пенсіённага страхаваньня, удасканаленьня страхавога заканадаўства рэспублікі, праблемы падаткаабкладаньня. Як адзначыў прэзыдэнт Страхавога Саюза В.Хальпярчук, канферэнцыя была разьлічана ня столькі на страхоўшчыкаў, колькі на тых людзей, якія павінны вызначаць палітыку дзяржавы, у тым ліку і ў сферы страхаваньня. "Дзяржава, напэўна, павінна быць зацікаўлена, каб страхаваньне накапіла вялікі грашовы патэнцыял, а пасьля гэтага, як прынята ва ўсім сьвеце, праз шэраг мер рэгуляваньня прымусіць страхоўшчыкаў інвеставаць гэтыя грошы ў дзяржаўныя праграмы. Праўда, гэтае пытаньне не такое простае, як гучыць, але тым ня менш, сёньня я поўны аптымізма. Тым больш, што да гэтай сустрэчы наш урад праявіў дастаткова сур'ёзны інтарэс".

**СІМ**

## ВІНШУЕМ ЮБІЛЯРА!

Вялікаму беларускаму вучонаму, мовазнаўцу Івану Якаўлевічу Лепешаву спаўняецца 70 год. Чалавек нялёгкага жыцьцёвага лёсу, ён заўсёды заставаўся і застаецца верным сынам Беларусі. Вялікі працаўнік, таленавіты дасьледчык, Іван Якаўлевіч стаў аўтарам шэрагу навуковых прац, як "Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў", "Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора", "Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы" і інш. Плённа працуе Іван Якаўлевіч і з маладымі навукоўцамі, шчодра дзеліцца сваім вопытам і ведамі. Хочацца пажадаць юбіляру моцнага здароўя, доўгага жыцьця і не менш плённай працы ў будучым.



**У N 34 "Пагоні" не па віне рэдакцыі ў артыкуле "Як сто даляраў спакусілі сьвятара" згадана імя былога сьвятара з Зэльвы Валяньціна. На самой справе імя сьвятара - Васіль. Перапрашаем.**


## "ПАГОНЯ"

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА**

**Заснавальнік:**
**культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**

**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.**
**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**
**Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**
**Пры перадруку спасылка абавязкова.**
**Індэкс 63124. Ліцэньзія № 465.**
**Фотанабор, афсэтны друк.**
**Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**
Заказ 4239.
Наклад 4592 паасобнікі.